Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.

# САХА

Беларускі месячнік сельскае гаспадаркі і коопэрацыі,

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
за год . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністр.
Вільня, Вострабрамска 9-22.

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

Выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларуск. Культурна - Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

№ 4 (8) | Вільня, красавік 1931 г. | Год II.

## ЗЪМЕСТ:



Друкарня А. Дворжэца, Вільня, Завальная 32.

Год II

# САХА

№ 4

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

*Вільня* *Красавік* *1931*

## Значэньне правільнага чаргаваньня расьлін.

Не аднаму гаспадару даводзілася заўважыць, што ураджай тае, ці іншае расьліны ў вялікай меры залежыць ад таго, якая перад гэтым расьліна была засеяна на даным полі. Усім добра ведама, што пасьля канюшыны лепей урадзіць пшаніца, лён, проса, бульба, грэчка. Тым часам пшаніца па пшаніцы, буракі па буракох кепска родзяць.

Галоўныя прычыны гэтага зьявішча наступныя:

I. Розныя расьліны ставяць не аднолькавыя вымогі, што да пажыўных матэрыяў у глебе. Адны бяруць з глебы шмат азоту, другія — фосфару, а трэцьція — паташу.

Калі, напр., пасьля бульбы пасеім збажыну, то яна павінна добра ўдацца, бо бульба патрабуе шмат паташу, а на фосфар вялікіх вымог ня ставіць. Знача, пасьля бульбы збажына знойдзе большую кольказьць фосфару, якога патрабуе штат.

II. Далейшай прычынай лепшых ураджаяў пры правільным чаргаваньні расьлін ёсьць тое, што розныя расьліны бяруць пажыву сабе не з аднолькавай глыбыні глебы.

Скажам, калі напр. сеяцца збожа па збожжу, то ўраджаі будуць падаць, бо карані збожжа сягаюць ня глыбака і будуць выкарыстоўваць толькі верхні пласт глебы, дзе зразумела пажыўных матэрыялаў хутка можа нехапіць. Зусім што іншае, калі пасьля збожжа прыйдзе канюшына, лубін або сэрадэля. Гэтыя расьліны маюць даўгія карані і выкарыстоўваюць глыбейшыя пласты глебы, а ў дадатак да таго карані іх могуць здабываць вольны, знаходзячыйся ў паветры азот.

III. Апрача вышэйпададзеных прычынаў, правільнае чаргаваньне патрэбна і таму, што глеба пасьля розных расьлін набірае розных уласьцівасьцяў, як большую ці меншую пульхнасьць, не аднолькавую здольнасьць утрымліваньня вільгаці і г. д.

Усім добра ведама, што пад расьлінамі, якія больш заценяюць грунт, зямля больш пульхная, як пад тымі, якія мала зьмяняюць. А дзеля таго, пры ўкладаньні пладазьмену стараюцца ўкласьці яго так, каб адна расьліна падгатаўляла глебу для другое.

Яшчэ ў свой час Тэр (Thaer) пазнаў, якое вялікае значэньне мае папярэдняя расьліна для ўраджаю наступнае і пасьля доўгіх досьледаў пачаў прапагаваць такі пладазьмен:

1) асыпныя, 2) ярына, 3) канюшына, 4) азімае, 5) стручковыя расьліны, 6) азімае.

І ў сучасны мамэнт агранамічная веда трымаецца тых самых прынцыпаў, што паміж двума збажынамі павінна быць шыракалістая расьліна, як гарох, грэчка, чэчавіца, ці асыпныя (бульба, буракі), або кармовыя травы (канюшына, сэрадэля, віка).

Аднак, у сучасны мамэнт культурныя гаспадаркі не заўсёды прытрымліваюцца гэтае засады (ліст — колас), але гэта не з тае прычыны, што такое чаргаваньне ня ёсьць адпаведным, а толькі выключна з меркаваньняў эканамічных, — сеецца тое, што як найдаражэй можна прадаць. Кепскі-ж уплыў неадпаведнага чаргаваньня ўхіляецца сільным гнаеньнем і старанна апрацоўкай.

У нашых умовах, дзе штучнае ўгнаеньне бывае досыць рэдкім зьявішчам, а хлеўнага гною бывае замала, правільнае чаргаваньне расьлін мае вялікае значэньня.

Пераход з трохпольнае сыстэмы да шматпольнай і завядзеньне сталага севазвароту з правільным чаргаваньнем расьлінаў, зьяўляецца найгалаўнейшай падставай для павышэньня ўраджаяў на нашых глебах.

Дзеля таго, што культываваньне тых ці іншых расьлін залежыць выключна ад мяйсцовых варункаў (ад якасьці глебы, клімату, рынку і г. д.), то і нельга парадзіць які-небудзь адзін севазварот, прыдатны для розных мяйсцовасьцяў і аб гэтым мы будзем разважаць у наступных нумарох нашае часопісі. Цяпер-жа пастараемся толькі больш-меньш высьветліць які уплыў робяць адны расьліны (папярэднікі) на ўраджай наступных, каб наш селянін мог зрабіць для сябе практычны вывад і па магчымасьці скарыстаць яго.

Як ужо раней гаварылася, ёсьць расьліны, якія добра падгатаўляюць глебу для адных расьлін і кепска — для другіх. Да таго можам дадаць, што ёсьць расьліны, якія наагул ня робяць добрага ўплыву на будучы пасеў, якія-б то ня было расьліны і наадварот, — ёсьць такія расьліны, якія зьяўляюцца добрымі папярэднікамі амаль што для ўсіх гасп. расьлінаў. Іначай кажучы, — ёсьць добрыя і кепскія папярэднікі.

Дацэнт Укр. Гасп. Акадэміі В. Доманыцькый („Сільській Господар“ № 4, 1931 г.) розныя гаспадарчыя расьліны, паводле іх уплыву на наступныя за імі пасевы, характэрызуе так:

„Кепскімі папярэднікамі перш за ўсё бывае тая самая расьліна, што сеема ў гэтым годзе, г. з. паўтарэньне расьліны два гады падрад на тым самым полі (напр. буракі — на бурачнішчы, лён — на льнянішчы). Але ня ўсе с. г. расьліны аднолькава баяцца гэтага бязупыннага культываваньня на адным мейсцы“.

„Буракі на бурачнішчы, лён на льнянішчы, авёс на аўсянішчы вельмі кепска родзяць, а вось проса на прасянішчы або бульба на бульбянішчы родзяць нават лепей, чым на жытнішчы. Так сама жыта пры бязупынным культываваньні (што год — на жытнішчы) у першыя гады паніжае ўраджай, а потым спыняецца на пэўным роўні і далей не паніжае ўраджаяў.

Кепскімі папярэднікамі ёсьць амаль што для ўсіх с.-г. расьлін жыта і пшаніца (жытнішча і пшанішча)“.

„Добрыя папярэднікі. Найлепшымі папярэднікамі для збожжа, буракоў, бульбы, проса, грэчкі ёсьць расьліны стручковыя, а паміж іх ў найбольшай меры шматгадовыя травы (канюшына, люцэрна, эспарцэта). Добрым папярэднікам для збожжа, проса, грэчкі ёсьць бульба, а таксама і кукуруза ёсьць добры папярэднік, як і бульба. Буракі, як папярэднік, адстаюць трохі ад бульбы і кукурузы. Як добрыя папярэднікі для буракоў, бульбы і грэчкі паказалі сябе лён і мак.

Сіла ўплыву папярэднікаў. Сіла ўплыву папярэдніка ў значнай меры залежыць таксама ад таго, на якой расьліне дасьледжваем гэты ўплыў. Проса, лён і буракі надзвычайна сільна пабольшваюць ураджай пасьля добрых папярэднікаў (напр. пасьля канюшыны) і сільна зьменшаюць ураджай пасьля кепскіх папярэднікаў (буракі — на бурачнішчы; лён — на льнянішчы; проса на жытнішчы“.

„Збожжа і бульба ня так сільна рэагуюць на папярэдніка“.

З гэтай кароткай характэрыстыкі паасобных расьлінаў ясна відаць, якое вялікае значэньне мае канюшына і іншыя шматгадовыя кармовыя травы для ўраджаяў наступных за імі расьлінаў. З гэтай-жа прычыны ў культурных краінах адводзіцца вялікая плошча палёў пад шматгадовыя кармовыя травы. Шмат у якіх мяйсцовасьцях устанавілася нават пэўная т. зв. травапольная сыстэма земляробства. Прычыну павышэньня ўраджаяў пры травапольнай сыстэме праф. В. Вільямс, прыдаючы вялікае значэньня шматгадовым травам, тлумачыць наступна:

„Глеба-ж пры стварэньні на ёй ураджаю нямінуча засуджана на страту сваей ураджайнасьці, перагной пры вырабе разбураецца, выраб разбурае трываласьць глебы. Трэба як толькі мага назапасіць перагною! Назапасіць гэтага перагною з дапамогаю гною, з дапамогаю вырабу нельга таму, што задача вырабу — знішчэньне перагною, а не памнажэньне яго.

Але ў нас ёсьць група расьлін, якая ня можа не назапасіць перагною, якая абавязкова пры ўсякіх умовах павінна назапасіць яго. Гэта група расьлін шматгадовых травяністых, расьлін лугавых. Парасткі гэтых расьлін адміраюць у глубокую восень. Ласьне кажучы, мароз пабівае гэтыя парасткі, і ўся маса каранёў гэтых парасткаў адмірае, а ўся маса органічнае матэрыі, якая ў іхнім карэньні назьбіралася за год, цалком застаецца ў глыбокую восень у глебе. Што значыць ў глыбокую восень? Гэта значыць, у той час, калі глеба наскрозь насычана вадою, вада не дае паветру магчымасьці прасякаць у глебу, і ў ёй ідзе павольнае раскладаньне органічнае матэрыі бяз доступу паветра. Потым у вясну пры культуры шматгадовых расьлін вырабу няма, і, значыцца, тыя-ж умовы захоўваюцца і на налецьце. Такім чынам адбываецца прогрэсыўнае намнажэньне ў глебе органічнае матэрыі і перагною. Адзіны спосаб назапасіць перагною, ад якога залежыць трываласьць глебы, гэта пэрыядычная культура на палёх шматгадовых траваў“.

Ведаючы, якое вялікае значэньня маюць шматгадовыя кармовыя травы (пры двухгадовым іх карыстаньню), асабліва матылякветыя (канюшына люцэрна, эспарцэта), трэба пад гэтыя расьліны адвадзіць як найбольшую частку ворнае плошчы. Найлепей калі адводзіцца пад канюшыну, люцэрну, эспарцэту або сумешкі гэтых траў з іншымі каля $1/6$ — $1/4$ усяе ворнае плошчы. Трэба толькі памятаць, што як канюшына, так і люцэрна можа быць высявана на тым самым полі не раней як праз 6 гадоў, а эспарцэта, то аж за 10 гадоў.

Другою важнаю ўмоваю рэарганізацыі нашае палявое гаспадаркі ёсьць тое, што бульба і карэньплоды павінны займаць ізноў такі як найбольшую плошчу. Добра, калі гэтымі расьлінамі засеяна каля $1/6$ аж $2/5$ усяе ворнае зямлі.

*С. Б.*



# Нарысы па коопэрацыі.

(Працяг).

## 3. *Сучасная спажывецкая коопэрацыя у Англіі.*

Усё дзевятнаццатае стагодзьдзе і пачатак двадцатага ў гісторыі коопэрацыі адзначаліся бязупынным яе ростам, як у самой Англіі, так і ў іншых краёх. Коопэрацыя ў гэты час на толькі ўзмоцнілася, што прадстаўляла з сябе вялікую сацыяльна-эканамічную сілу, з якой павінны былі лічыцца пануючыя клясы і іх урады.

Справа рочдэльцаў, над якой штат хто з іх сучасьнікаў сьмяяўся, як над дзіцячай выдумкай—разраслася да такіх разьмераў, аб якіх яны самі ня думалі. У тэй-жа Англіі ў 1914 годзе на пярэдадні сусьветнае вайны коопэратыўны Союз аб'еднываў 1390 коопэратыўных таварystваў з 3,054,274 сябрамі, а розьнічны абарот усіх кооперат. арганізацыяў раўняўся—879,642 тыс. руб.

Спажывецкая коопэрацыя не абмяжоўвалася выключна галінай абмену. Па меры свайго разьвіцця усё больш расла думка паміж яе сабрамі аб неабходнасьці арганізацыі ўласных фабрык і заводаў, якія паступова і паўставалі то ў адным, то другім раёне. Уласьнікамі гэтых прамысловых прадпрыемстваў былі коопэратыўныя Союзы, ці нават паасобныя коопэратыўныя таварыствы, маючыя на гэта аднаведны капітал.

Працоўная сіла ў большай частцы нанімалася з сяброў коопэратыву і ўмовы працы на гэтых фабрыках былі шмат лепшымі, як на прыватна-капіталістычных.

Аб разьмерах прамысловай вытворчасьці ангельскай коопэрацыі сьведчаць наступныя дадзеныя, узятыя намі з кнігі праф. Туган-Бараноўскага.

«У 1912 г. Коопэратыўны Союз меў 43 фабрыкі, таварныя склады ў Манчэстэры, Нью-Кэстлі і Лёндане, 4 морскія караблі, гарбатныя плянтацыі на востраве Цэйлёне і 2 фэрмы ў Англіі. Вартасьць усіх вытвараных прадпрыемствам тавараў раўнялася 772 міл. фунтаў штэрлінгаў, а колькасьць рабочых даходзіла да 17 тысячаў.

Шкоцкае Гуртовае Таварыства мае 27 фабрык, таварныя склады ў Глазю, Эдынбурзе ды іншых месацах і элеватр у Канадзе. Агульная вартасьць вытворчасьці азначаецца у 2½ міл. фунт. штэрл., а колькасьць рабочых перевышае 5 тысяч чалавек» (Туг.-Бар. (Społeczne Zasady Kooperacji, стар. 132).

І там-жа ў 1912 г. ўсе ангельскія і шкоцкія коопэратывы прадалі тавараў на 78 міл. фунт. штэрл., з гэтай сумы на 38 міл. фунт. штэрл. было прададзена такіх тавараў, якія выраблялісяна ўласных фабрыках і заводах.

Сусьветная вайна вельмі ад'емна адбілася на коопэрацыі ўсяе Эўропы, а таксама і Англіі. Асабліва цяжкія часы пераживала коопэрацыя ў апошнія гады вайны, першае трохгодзьдзе пасьля яе ў тых дзяржавах, дзе, напрыклад, як у Гэрманія, наступіла грошовая інфлян-

цыя. Нават ангельская коопэрацыя, ня гледзячы на цьвёрдасьць валютй, закончыла 1920 г. 50 міл. стратай.

Пасьля вайны крізіс, у якім апануліся ўсе капіталістычныя дзяржавы, блага адбіваецца і на ангельскай коопэрацыі, пакольні яна арганічна зьвязана з усей гаспадарчай сыстэмай сьвету. Аднак, ня гледзячы на цяжкія эканамічныя абставіны, у якіх апынулася Англія ды знаходзіцца да гэтага часу, разьвіцьцё спажывецкай коопэрацыі няўхільна ідзе наперад. Так, напрыклад,—ужо ў 1923 г. розьнічны абарот усіх спажывецкіх коопэратаваў раўняўся 1,654,900 тыс. руб. у тоў час, як у 1914 г. даходзіў толькі да 879,642 тыс. руб., а ў 1927 ён дайшоў да 1,994,249 тыс. руб.; колькасьць сяброў у 1923 раўнялася 4,569236 чал., а ў 1927 г.—5579,038.

Шмат якімі коопэратарамі адзначаюцца тыя перашкоды, якія паўстаюць на шляху разьвіцьця коопэрацыі, знаходзячайся ў капіталістычным акружэньні. Сучасны фінансовы капітал за апошнія гады выявіў імкненьне падпарадкаваць свайму беспасярэдняму ўплыву ня толькі галіну яе вытворчасьці, але і абмен.

Рознаго роду картэлі і трэсты імкнуцца задушыць разьвіцьцё спажывецкай коопэрацыі ўсімі спосабамі, якія знаходзяцца ў іх распараджэньні; адчыняюць аграмадныя магазыны, байкатуюць коопэрацыю і г. д. Буржуазныя ўрады, пакольні яны ідуць на спаткальне інтэрасам буйнага капіталу, яўным і тайным парадкам-спачуваючa адносяцця да яго імкненьняў і ў сваю чаргу ўсякімі спосабамі стараюцця ўкладаць палкі ў калёсы коопэратыўнага руху.

Усё гэта разам узятае, зразумела, ня можа памагаць росту коопэрацыі і ў шмат якіх выпадках стварае вялікія перашкоды. Ня гледзячы, аднак, на такія няспрыяючыя, а часта нават варожыя для коопэрацыі абставіны прыкладам у такіх дзяржавах, як Баўгарыя і Італія ды іншых—яна, хоць і паволі, але няўхільня ідзе наперад.

Мы не належым да ліку тых людзей, якія думаюць, што коопэрацыя патрапіць зрабіць цуд, і вылячыць людзкасьць з усіх яе хваробаў. Падобны пагляд мы лічым утопіяй, пераходзячай сілы і магчамасьці коопэрацыі. Аднак нельга ўваходзіць у другую скрайнасьць, нельга не дацэніваць гэтага шырокага, запраўды масавага народнага руху.

У нашаў аццэнцы кооперацыі рашаючым зьвяўляецца той факт, што ня гледзячы на ўсе перашкоды, якія з асаблівай сілай выявіліся ў апошнюю эпоху— коопэрацыя не замірае, а наадварот, ідзе наперад і разьвіваецца.

Зьвяртаюць увагу на тое, што ў Англіі, як і цэлай чарзе іншых дзяржаваў—праватны капітал робіць вялікія пасьпехі, яго абароты растуць шпарчэй, чым абароты коопэрацыі і г. д.

З гэтага, аднак, ня вынікае, што коопэрацыя перестае адыгрываць тую важную ролю, якую яна цяпер выпаўняе у соцыяльна экаманічнай галіне. Той факт, што капіталістычныя арганізацыі часам шпарчэй разьвіваюцца, чым коопэратыўныя—нас зусім мала абходзіць. Капіталізм разьвіваецца так, як яму кажуць яго ўласьныя законы разьвіцьця. У нас няма ніякіх падстаў баяцца таго, што капіталістычныя формы гаспадаркі праглынуць коопэрацыю. Гэтага ня будзе, як ня здарылася і да сёньняшняга дня.

За апошняе стагодзьдзе коопэрацыя бачыла шмат розных труднасьцяў і яны яе не зламалі. Варта прыпомніць першыя гады яе разьвіцьця, калі ўсё гэтак званае грамадзьзямства ўважала піонэраў коопэрацыі за варыятаў, а ўрады амаль за небясьпечных для дзяржавы бунтаўшчыкоў,—аднак коопэрацыя гэта ператрывала. Перанясе яна і цяпер на гледзячы на тое, што фінансавы капітал запраўды вострыць на ея зубы; аднак паломіць іх, як толькі папрабуе ўжыць супроць коопэрацыі. У гэтым няма сумліву. У аснове нашай пэўнасьці ляжыць сама прырода коопэрацыі, зьявіўшайся на сьвет у рэзутальце не чаго іншага, а самадзеяльнасьці самых шырокіх мас працоўнага народу.

Той факт, што ў аднэй Англіі з 1923 па 1927 колькасьць сяброў спажывецкай коопэрацыі ўзрасла больш як на 1 міліён—говора сам за сябе.

Міліённыя масы людзей, уцягненыя ў коопэратыўны рук, паміма тых беспасярэдніх матэраяльных выгадаў, якія яны дастаюць—у коопэратыўных арганізацыях, знаходзяць добрую школу, дзе атрымліваюць грамадзкае ўзгадаваньне, дзе іх салідарнасьць разьвіваецца на грунце практычанай гаспадарчай дзеяльнасьці.

*Ф. Акінчыц.*

(Працяг будзе).

---

# Значэньне бугая ў гадоўлі.

Ніхто сабе ня вораг, — кажа прыказка. Але колькі разоў, вядучы гаспадарку селянін бывае сабе ворагам! Колькі нашы вяскоўцы гаспадарачы робяць памылак, якія потым бокам вылазяць. А ўсё гэта ад таго, што мала думаем перад тым, як што маем рабіць. Ня слухаем уважна, што аграномы кажуць, а гаспадарчых кніжак і часопісяў амаль што зусім ня чытаем. Вось таму і бядуем.

Колькі памылак робіць наш вясковы гаспадар, то і пералічыць нельга: сее сваім мала ўрадлівым насеньнем і шкадуе грош выдаць на добрыя сарты насеньня, блага прыгатаўляе глебу, ня купляе штучных гнаёў і ня выкарыстоўвае торфу на ўгнаеньне, ня робіць кампосту і г. д., і г. д.

Але найчасьцей і найбольш прыкрых памылак дапускаюць гаспадары пры гадоўлі дойнае жывёлы. Рэдка хто з нашых сялян загадзя вышуквае добрага бугая, каб потым, у разе патрэбы, прыпусьціць карову. У нас часьцей стараюцца толькі аб тым, каб карова пабегала, а тое, які мае быць бугай і як потым целята гадаваць, нікога ня цікавіць. Тым часам толькі нашчадкі добрых бугаёў могуць быць добрымі, прадуктыўнымі каровамі.

Ёсьць у гадаўлянай ведзе навукова абгрунтаванае і практыкаю выпрабаванае цьверджаньне, што малочныя здольнасьці перадаюцца ў спадчыну.

Гэта знача, што нашчадкі магуць быць добрымі дойніцамі толькі тагды, калі іх бацькі вызначаліся гэтаю якасьцью. Трэба зазначыць,

што на малочную здольнасьць нашчадкаў у аднолькавай меры ўплывае як карова, так і бугай. Знача добры бугай, які сам паходзіць ад высока малочных бацькоў, можа здольнасьць высокае малочнасьці перадаць паходзячым ад яго каровам.

Адсюль бачым, што і ад сваіх простых кароў, не трацячы грошаў на закуп пародзістых самак, можам выгадаваць каровы высокай дойнасьці. Для гэтага трэба дбаць толькі аб наступным: 1) каб карова была прыпушчана толькі к добраму бугаю, які паходзіць ад добрых бацькоў і малочную здольнасьць добра перадае нашчадкам і 2) адпаведна гадаваць целята.

Што-ж датычыцца апошнягя, а ласне гадоўлі цялят, то і тут у нашага гаспадара няма ніякага разуменьня. Целята гадуюцца як папала. Селянін сабе мяркуе, што абы цёлка сяк-так перакідалася, а там за год пойдзе на пашу, то і паправіцца. Але гэты пагляд ужо ў аснове сваей памылковы і яго трэба назаўсёды адкінуць. Трэба прыняць як засаду, што ўсё, што змалку занядбана, таго ўжо ніколі не направіш.

Да таго трэба ведаць, што малочнасьць ад бацькоў перадаецца нашчадкам толькі як здольнасьць, якая потым можа выявіцца і ня выявіцца. Здольнасьць гэта ў каровы выяўляецца толькі тагды, калі яна яшчэ будучы цялём адпаведна даглядаецца. Канкрэтна кажучы, малочныя здольнасьці бацькоў могуць аб'явіцца ў нашчадкаў толькі пры наступных умовах: 1) калі целяты будуць зараз-жа па нараджэньню карміцца добра (трэба як найдаўжэй даваць целятам малако, хоць і сабранае, а потым добрую траву ці добрае мурожнае сена і не шкадаваць аўса) 2) пасьля таго, як маладая кароўка ацеліцца, трэба карміць яе так, каб у корме было дастатак пажыўных матэрыялаў як для яе ўласнага жыцьця, так і для вытварэньня тае колькасьці малака, якую яна можа вытварыць; карміць трэба ўмеру, бо калі будзем даваць менш таго, што патрабуецца для каровы, то гэта адаб'ецца як на здароўі каровы, так і на ўдою, — калі-ж будзем карміць зашмат, то гэтым будзе дарма марнавацца корм; 3) далей добрая дойнасьць залежыць ад правільнага і дакладнага выдойваньня, каб у вымі не заставалася па выдаеньні ані капелькі малака.

Паступаючы паводле гэтых засадаў, мы можам хутка дабіцца таго, што дойная жывёла ў нас будзе добра выглядаць і малака будзе дастатак, а ня так як цяпер, калі жывёла стаіць у нас у хляве толькі для гною.

*С. А.*

---

# Як рабіць сыроп (патаку) з цукровых буракоў.

Самой ужо прыродаю так уложана, што чалавек любіць салодкае і трудна знайсьці такога чалавека, які-б падобнага смаку ня меў. Ня здарма-ж істнуе народная прыказка: „што соладка, то смашна“. Прычына такога пагляду караніцца глыбака ў самой прыродзе чалавека. Так яно ёсьць цяпер у жыцьці, так яно пэўна будзе і заўсёды.

Прырода, абдарыўшы чалавека цягаю да ўсяго салодкага, адначасна і стварыла салодкія рэчы, каб чалавек сваю патрэбу мог заспакоіць. Нашы дзікія продкі былі ня менш за сучасьнікаў ласыя на салодкія рэчы, якімі для іх зьяўляліся розныя плады і карэньня пэўных расьлін. Сучасны чалавек у шмат лепшым палажэньні знаходзіцца ад свайго продка, — цяпер ёсьць цукар, дзякуючы якому шмат страў можна зрабіць салодкімі.

Цукар знаходзіцца ў розных расьлінах, але найбольш яго маецца ў цукровым трысьніку і цукровых буракох. З гэтых-жа расьлін галоўна яго і выдабываюць. У Эўропе цукар вырабляецца толькі з цукровых буракоў.

Ня гледзячы на тое, што цукру ў сьвеце вырабляецца шмат, селянін наш не заўсёды карыстаецца гэтым смачным і пажыўным прадуктам, а прымушаны часта прысалоджваць сваю страну сахарынай. Прычына гэтага палягае ў тым, што цукар памерна дорага каштуе. Ня гледзячы на тое, што саладзіць сахарынай танна, радзім яе ніколі ня ўжываць, бо яна шкодзіць чалавечаму арганізму. У дадатак да таго вольны гандаль сахарынай з тых-жа прычын забаронены і вось тут чалавек, дзякуючы сваей цемнаце, яшчэ горш ашуквае сябе, калі купляе гэтую сахарыну з—пад палы. Розныя спэкулянты нажываюцца на гэтым на шкоду людзкому здароўю, а ў першую чаргу на шкоду бяднейшага селянства і работніцтва. Гэта дае даходы фабрыкантам, якія сахарыну вырабляюць і прадаюць яе праз розных спэкулянтаў на ўсе бакі, выціскаючы сокі з селяніна і работніка і нішчачы яго здароўе. Супроць гэтага павінна стаць шырокая сьведамасьць бяднейшых слаёў насельніцтва, адмаўляючыся купляць сахарыну, як шкодную для здароўя.

Таго, хто купляе сахарыну і гэтым ашуківае сябе і падрывае сваё здароўе, прыходзіцца толькі пашкадаваць. Але ўжо трэба падняць моцны голас пратэсту, калі сахарынаю пачынаюць ашукваць малых дзяцей. Гэтага ніхто ня мае права рабіць, ня мае права насьмехацца над уложанай прыродаю цягай к салодкаму, ня мае права забіваць маладых арганізмаў!

Здавалася-б, што гэта павінны ведаць сяляне і асабліва павінны ўцяміць маткі, што сахарына шкодная і ей ніколі ня можна саладзіць дзецям страву. Аднак, сяляне нашы яшчэ і да гэтае пары ў належнай меры не разьбіраюцца, што ня ўсё салодкае карысна і ўжываюць сахарыну.

Хай-жа кожны, хто прачытае гэты артыкул, затрымаецца над гэтым пытаньнем, адмовіцца сам ужываць сахарыну і пастараецца гэта вытлумачыць другім. А дзеля таго, каб селянін не пазбаўляў сябе салодкіх патраў, я тут кідаю практычны кліч да нашых селянаў: рабеце цукравы сыроп дамовым спосабам з цукровых буракоў, які вам да пэўнай меры заменіць цукар.

Ня гледзячы на тое, што цукровы сыроп па якасьці далёка стаіць з-заду ад цукру, усёж-такі ён пры нашай беднаце добра можа замяніць цукар і да таго яшчэ амаль што нічога ня будзе каштаваць, бо заўсёды знойдзецца кавалачак добрае зямлі, на якой можна пасадзіць цукровыя буракі. Сяўба і дагляд цукровых буракоў такі самы,

як і кармовых (чыт. № 7 „Сахі“ — „Кармовыя буракі“). Самы-ж спосаб вырабу сыропу з буракоў найпрасьцеў будзе такі:

Бяром сьпелыя цукровыя буракі ў колькасьці адпавядаючай тыднёвай патрэбе, ачысьцім ад зямлі і абмыем у вадзе. Потым дзяром іх на драцы. Надраную такім чынам мязгу кладзём у палатняны клінок, завязваем і выціскаем сок ці то адумысна зробленым прэсам, ці проста качалкамі.

Выцісьнены сок потым зьліваем у чысьценькі рондаль або пабеляны саган і пачынаем варыць не на вялікім вагні і так доўга, пакуль на дне сагана ня ўтворыцца густая салодкая маса — сыроп. Дзеля таго, што гэты сыроп трохі будзе аддаваць буракамі, то, каб пазбавіцца гэтага, можна дадаць да яго трошкі ванілі ці малінавае эсэнцыі.

Зроблены такім чынам сыроп гадзіцца і для гарбаты, і можна ім мазаць аладкі і наагул яго можна ўжыць усюды там, дзе ўжываецца цукар.

Куды лепшы сыроп можна атрымаць, калі бурачны сок ня будзем адпарваць беспасярэдня на вагні. Робіцца гэта такім чынам: бярэцца вялікшы кацёл, каб у яго мог увайсьці вольна другі кацельчык (саган), у які наліваецца бурачны сок, на дно большага катла кладзецца пара плоскіх кускоў жалеза, кацёл ставіцца на вагонь і ў сярэдзіну яго ставіцца меньшы кацельчык з бурачным сокам, а прастор паміж сьценкамі абодвух катлоў запаўняецца вадою. Вада між сьценкамі ад награваньня пачне кіпець, а разам з тым цяпло будзе перадавацца ў кацельчык з сокам, які таксама пачне адпарвацца. Пры апошнім спосабе можна быць спакойным, што сыроп ніколі не падгарыць.

Застаўшуюся пасьля выцісканьня соку бурачную масу (жамерыну) можна з карысьцю ўжыць на корм для жывёлы.

Дык вось, як бачым з гэтага кароткага выкладу, выраб цукровага сыропу вельмі просты і не дарагі. Трэба толькі трошкі лішніх турбот і чалавек можа сябе забяспечыць добрым салодкім прадуктам у любой колькасьці. Мы пэўны, што хто толькі спрабуе вырабляць цукровы сыроп дамовым спосабам, зразу-ж стане яе прыхільнікам і на заўсёды адмовіцца купляць сахарыну, якая атручвае людзкі арганізм.

*Бывалы.*

---

# Саманныя будынкі.[1]

Танныя і негаручыя вясковыя будынкі робяцца з гліны на ўсякія манеры, але самымі лепшымі будынкамі з гліны па моцнасьці, цеплаце і сухасьці, лічацца саманныя. Саманныя будынкі будуюцца з непаленай цэглы вялікіх разьмераў: у 10 або ў 8 вяршкоў даўжыні, зробленай з гліны з саломай.

Цэглу гэту сушаць на паветры; завецца яна саманнай або паветранай цэглай, ці проста саманам.

---

[1]) А. Бараноўскі — „Змаганьне з пажарамі“.

Ляпіць сьцены проста з гліны, як гэта многія робяць, няма ніякае карысьці, бо такія сьцены пачнуць абвальвацца, і наогул не практычны. Лепш спачатку нарабіць з гліны вялікіх цэглін, высушыць іх на паветры і складаць з іх сьцены. Апальваць гэту цэглу ня трэба, а змайстраваць яе ўсякі зможа сам: ніякае мудрасьці на гэта ня трэба.

Самыя сьцены бываюць роўныя, гладкія і даволі сухія. Збудаваўшы хату ўлетку, зімою ў ёй можна ўжо жыць. Праца ідзе хутка, мураваць гэткія сьцены не марудна.

## 1. Як прырыхтаваць гліну для самана.

Гліна для самана ўжываецца ўсякая, але лепш, каб яна была ня вельмі пясочная, клейкая і тлустая. Налейпей прыгатаваць гліну на зіму, каб яна перамерзла.

Гатуюць гліну для саманнай цэглы таксама, як і для абмазкі сьцен. Гліну перакопваюць рыдлёўкамі, разьбіваюць грудкі на дробныя кавалачкі, а пасьля паліваюць вадою і месяць нагамі або водзяць па ёй коняй ці валоў. Пасьля пачынаюць сыпаць пад ногі сечаную салому і месяць далей.

Лепш браць салому жытнюю, яна мацней зьвязвае гліну. Салома павінна быць сухая, ня гнілая, без травы і каласоў з зярнятамі. Калі салома з пад цапа, тады яе сякуць на дробныя кавалкі ад паўпядзі да цэлай пядзі даўжыні. Дробная сечка раўней распаўзецца па гліне і мясіць будзе лягчэй; даўгая-ж салома кепска і марудна ўмешваецца ў гліну. Калі салома з-пад малатарні, тады можна і ня сячы, але трэба яе добра вымяць, — ці паганяць па ёй каняй ці прапусьціць другі раз праз малатарню, каб яна пэратаўклася на дробныя кавалкі.

Салому ўмешваюць у гліну дзеля таго, што яна зьвязвае гліну, а гліна, зьляпіўшыся з саломаю, ня трэскаецца пры высыханьні.

Калі гліна вельмі тлустая, то саломы трэба даваць больш, але ніколі нельга даваць саломы больш чацьвёртай або пятай часьці гліны (па вялічыні). Калі-даць саломы вельмі многа, тады сьцены будуць уздутыя, і ў іх завядуцца мышы і будуць псаваць сьцены. Колькі трэба даць саломы — лягчэй усяго ўгадаць пры рабоце, а яшчэ лепей узяць гліны і зрабіць пробную цэгліну. Калі пробная цэгліна пасьля перасушкі не пашчапаецца і не пакарабаціцца, то гэта значыць, што гліна прырыхтавана добра.

Ніколі ня трэба прымешваць у гліну гною дзеля таго, што з гэтай гліны сьцены будуць заўсёды вільготныя і ня зусім моцныя, а ў хаце заўсёды будзе няпрыемны пах.

Галоўным чынам у гэтай справе трэба трымацца таго, каб гліна была добра раскалочана і перамешана з саломаю як найлепей, — каб ня было жмуткоў саломы ці кавалкаў не расьціснутай гліны і каб цеста выходзіла густое. Нанятыя майстры часта псуюць справу тым, што гліну раскалочваюць рэдка і мала даюць саломы; гэтым яны палягчаюць сабе працу, але цэгла выходзіць дрэнная і нікуды нягодная.

На гусьціню гліна павінна быць як цеста для хлеба. Глінамеска лічыцца выгатаванай, калі яна ад рыдлёўкі і ад ног лёгка адстае, а зробленая цэгліна не расплываецца.

# 2. Як рабіць саманную цэглу.

Калі гліна прыгатавана, пачынаюць рабіць з яе цэглу. Саманная цэгла робіцца ўсякіх разьмераў. Больш усяго робяць гэткай формы: 10 вяршкоў даўжыні, 5 вяршкоў шырыні і 2½ вяршкі таўсьціні, або 8 вяршкоў даўжыні, 4 вяршкі шырыні 2—3 вяршкі таўсьціні. Вельмі патрэбна ўважаць на тое, каб даўжыня цэгліны была ў два разы больш за шырыню. Гэта трэба дзеля таго, каб пры выкладцы сьцен лепей можна было зьвязаць сточкі. Калі саман рабіць большы і таўсьцейшы, дык ён будзе паволі, доўга і кепска сохнуць і будзе цяжкаваты для пераноскі.

Цэглу робяць у драўляных формах. Форма гэтая ні што іншае, як скрынка з паўвяршковых дошчак, бяз вечка і дна, з ручкамі па канцох. Формы можна рабіць адзіночныя, а таксама і падвойныя, г. зн. разам па дзьве цэгліны, а то нават па 4, па 5 і па больш цэглін, але ў адзіночных формах лягчэй рабіць і саман выходзіць зграбнейшы.

Форму робяць па разьмерах цэгліны, але так, каб разьмер сырое цэгліны быў крыху большы паводле сухое цэгліны: ў даўжыню на пал. вяршка, у шырыню на 1/5 вяршка, а ў таўсьці на восьмую вяршка. Гэтулькі прыбаўляецца, калі саман у 10 вяршкоў, а калі ў 8 вяршкоў, тады трохі меняй. Робяць гэта дзеля таго, што калі саман высахне, ён усыхае, робіцца меншым.

Перад тым, як пачынаць накладаць гліну, форму трэба памачыць у ваду, каб гліна да яе ня прыліпала. Добра бывае таксама абсыпаць форму дробна парэзанаю саломаю; пасьля ставяць форму на чыстае разроўненае і ўплесканае мейсца.

Каб цэгла ня прыліпала да зямлі, пад яе падсыпаюць саломы, сечкі або мякіны, пасьля бяруць прыгаршчамі гліну і прытрымліваючы форму нагою, з размаху кідаюць яе ў форму, — перш у адзін канец, пасьля ў другі, а трэйці раз кідаюць гліну кулакамі, каб яна добра ўлезла ва ўсе куткі формы. Лішку гліны або проста рукамі раўнуюць, або згартаюць мокраю качалкаю. Пасьля бяруць форму за ручкі, паволі падымаюць угару, а афармаваная гліна застаецца на мейсцы. Пасьля гэтага форму зноў мачаюць у ваду, ставяць побач са зробленай цэглінай, зноў натоптваюць глінай, — і зноў маюць новую цэгліну; так у радочках цэглінкі і ставяцца. У сухавейную пагоду сырыя цэгліны пасыпаюць зьверху саломаю, каб яны ня трэскаліся ад раптоўнага высыханьня. Цэгла лічыцца добраю, калі яна не шчапаецца як сохне: рашчэпіны паказваюць, што гліна была дрэнная і няроўна разьмешана або вельмі рэдка замешана.

Ніколі ня трэба пасыпаць форму пяском. Хоць тады і выходзіць гладкі і прыгожы саман, але затое ён кепска будзе прыліпаць да гліны ў часы выкладкі сьцяны і ня будзе трымацца ў сьцяне.

Згатаваныя цэгліны пакідаюць сохнуць на адкрытым паветры. Праз некалькі дзён (у добрую пагоду праз 2 — 3 дні), калі цэгла зробіцца цьвёрдаю, што ў яе будуць улазіць пальцы, яе варочаюць і ставяць рубам, каб абсох ніжні бок. Пасьля гэтага, дні праз тры, цэгліны так просыхаюць, што іх можна складаць у клеткі, пры гэтым

астаўляўляюць шчыліны, каб паміж іх праходзіў вецер. Праз 2—3 дні цэгла прасыхае наскрозь і яе можна браць у работу.

У клетках саман можна трымаць аж да другога лета. Трэба толькі накрыць яго зьверху саломаю або злажыць пад страхою ці пад паветкаю.

Калі ставіцца жылая будыніна, трэба ўжываць такую цэглу, што высахла наскрозь, а для халоднай будыніны (хлеў, пуня і інш.), гадзіцца і такі саман, які не пасьпеў дарэшты высахнуць: ён дасохне і ў сьцяне.

Лепш усяго вясною, калі ёсьць вольны час, напрыклад, пасьля пасеву ярыны, прыгатаваць саман, а пасьля касьбы і жніва злажыць з яго будыніну.

(Працяг будзе).

*А. Барановскі.*

---

# Кветнік пры хаце.

Хаты найчасьцей будуюцца ў вядомай адлегласьці ад дарогі, тым больш у гаспадарках скамасаваных. Дык вось, гэты кавалак паміж дарогаю і хатаю павінен быць прызначаны пад кветнік, каб наша гаспадарка з боку дарогі мела ня толькі добры, але і прыгожы выгляд. Уся сяліба наша (панадворак, забудаваньні і г. д.) павінны былі-б па меры магчымасьці абсаджаны расьлінамі.

Каб залажыць кветнік ня трэба ані шмат высілкаў, ані грошаў, трэба толькі ў гэта ўлажыць трохі жаданьня і працы. Перадусім трэба абмяркаваць плян, як сучасны стан рэчаў зьмяніць на лепшы, каб сваю ўласную хату прыаздобіць. Плян гэты апрача кветніка павінен быў-бы ўзяць пад увагу агарожу, упрыгожаньне сьцен дому, вокнаў, ганку і г. д.

Пры выкананьню праектаванага пляну першую ўвагу трэба было-б зьвярнуць на ачышчэньне сялібы ад усялякага сьмяцьця, паленьняў, выкарчаваньне непатрэбных дрэваў і кустоў і зраўнаньне ўсяе паверхні. Зямлю трэба абрабіць добра, каб была пульхнаю, каб добра ўтрымлівала вільгаць, адным словам трэба яе давясьці да агароднае культуры. Кветнік угнойваем старым гноем, найлепей перагніўшым кампостам. У восень прыгатаваную так зямлю перакопываем на глыбокасьць ня менш рыдлёўкі.

Агарожа зьяўляецца аднэю з найважнейшых частак кветніка. Яна павінна мець прыгожы выгляд. Парканы і платы зробленыя з дошчак, аполкаў, або абкоранных калкоў роўна прыбітых ёсьць добраю агарожаю.

Але найлепшаю агарожаю зьяўляецца жываплот, які з часам стварае патрэбнай вышыні і шырыні правейны, зялёны, прыгожы мур. Адна толькі бяда, што на яго трэба доўга чакаць. На жываплот найбольш надаецца крушына, якая хутка і добра расьце. Таксама добра і скора расьце акацыя, звання карачана, толькі абразаць яе трэба з гары, бо іначай на бакі мала вырастае. Усялякія жываплоты садзім на паяску зямлі шырынёю ў 50 сантымэтраў. Жываплоту

даём нармальна расьці да 150 сант. ў вышыню і 60—70 сант. у шырыню. Добры жываплот, але на яго доўга чакаць, атрымліваецца з ельніку. Так сама добрыя жываплоты атрымліваюцца з сьлівы-алычы, дзікае ружы, вярбы і інш. Ня варта рабіць жываплоту з глогу (Crategus), бо ён хварэе на тыя самыя хваробы, што дрэвы і агародныя кусты.

Кветнік з добра дагледжаным жываплотам прыгожа выглядае, аховывае кветкі і расьліны ад пылу, курей і іншых няпрошаных гасьцей.

Дом і будовы абсаджваюцца ўючымися расьлінамі. Найлепшымі зьяўляюцца: дзікае віно, звычайны хмель, шальбабоны, павойнік і інш. Каб разьвясьці гэтыя расьліны, трэба стоцьма працягнуць дрот або абаpачкі, часамі тычкі, прымацоўваючы, па меры патрэбы, да сьцяны. На фоне сьцяны дому прыгожа выглядаюць мальвы і сонешнікі. Памылковым ёсьць, што расьліны каля дому заводзяць вільгаць. Наадварот, забіраючы з-пад фундаманту шмат вады, патрэбнай ім да росту і на выпароўваньне, асушаюць зямлю пад і навокал дому, а гэтым самым і сам дом. Каля самага дому робіцца градка ў 50 сантым. шырынёю, але на ёй пакольki сьцены абвіты расьлінамі, садзіць нічога ня варта, хіба толькі пасеяць мацейку, рэзэду і г. д. Прыгожа выглядаюць падвешаныя пад вокнамі скрынкі з настурцыяй, пэляргоніяй, або іншымі кветкамі, а на вокнах выстаўленыя гарнушкі з пеляргоніяй, бальзамінкаю ці таксама з фуксіею. Унікаць трэба завешваньня цэлых вокан фіранкамі, якія не дапускаюць сьвятла да памешканьня. Абрамаваньне дзьверцаў, якія павінны быць у кожным агародзіку, трэба абвясьці ўючай расьлінай, тое самае трэба зрабіць з альтанкаю, ці ганкам.

Вясною, як толькі зямля абсохне, трэба вызначыць градкі, траўнікі, дарожкі і т. пад. Аздобны агародзік, асабліва ў камбінацыі з садам і варыўным агародам, павінен быць скромны. Усялякая беспляновасьць робіць яго не натуральным. Сьцежачкі павінны быць простыя, клёмбы прастакутныя, лепей круглыя ці авальныя, і ніколі ў форме зорак, сэрцаў, крыжыкаў і т. пад. Градкі не павінны быць вельмі высокія, ані шырокія. Ня трэба абстаўляць градак бутэлькамі, цэглами і т. п. — найлепей абкладаць іх дзёрнам. Добра, калі навокал хаты пасаджаны дрэвы, бо яны аздабляюць яе, засланяюць і твораць цень. Аднак не павінны яны расьці бліжэй 5 — 8 мэтраў і не засланяць вокан, каб сонячнае сьвятло мела прыступ да памешканьня.

Дарожак і сьцежак робіцца як найменш; усе павінны быць прыстасаваны да мэты, якой маюць служыць. Сьцежкі робяцца так, каб пасярэдзіне былі вышэйшыя, а па бакох ніжэйшыя, што дае магчымасьць добраму сьцеканьню вады. Дарожкі трэба пасыпаць таўчонаю цэглаю, або жвірам, а зьверху яшчэ пасыпаць пяском, зьмяшаным з невялічкай колькасьцю гліны.

У кожным кветніку можна кветкі засеяць, або пасадзіць. Першы спосаб ёсьць шмат лягчэйшы і танейшы, але дае кветкі ўмоўна позна, бо такія кветкі, як напр. мак, рэзэда, гарошак, сонешнік, настурцыя і інш цьвятуць толькі ў чэрвені і ліпні. Другі спосаб вельмі добры, калі пасадзім расьліны трывалыя, або двухгадовыя, якія год перад гэтым былі засеяны ў траўні — ліпні і восеньню або вясною на другі

год перасаджаны на сталае мейсца. Такімі кветкамі прыкладам могуць быць browser браткі, мальвы, званочкі і т. д.

Найболей пажаданымі для гэтае мэты будуць расьліны зімавытрывалыя, як півоніі, астры зімавытрывалыя, тояды, лілії, нарцызы, рута, барвінкі і т. п., — дагляд за якімі не патрабуецца вялікі. Наагул кажучы, трэба старацца, падабраць для кветніку расьліны так, каб ад вясны да позняе восені было шмат кветак. Пажадана, каб кветнік абышоўся як найтаней, а дзеля таго павінны быць ужыты расьліны, якія знаходзяцца на мейсцы ў вёсцы, а таксама дзіка растучыя, як касачы, палявыя румянкі, папараці, званочкі лясныя і палявыя, канвалейкі, фіялкі наагул маючыя прыгожыя кветкі або лісьцё.

Найважнейшаю справаю ёсьць: ня сеяць і не садзіць за густа. Калі пасеў выйдзе густы — трэба яго ў час прарадзіць. Расьліны павінны мець дастатак мейсца, каб маглі належна разьвіцца. Ня можна дапусьціць, каб ім шкодзіла пустазельля, якое абкрадае іх з пажыўных матэрыялаў і вады. Таксама патрэбна ўтрымліваць зямлю навокал расьлінак успульхненай. Падчас сухое пагоды трэба іх паліваць ня штодня, але ў вялікай колькасьці. Трэба таксама помніць, што трэба зразаць адцьвіўшыя кветкі, калі хочам, каб доўга цьвілі.

Хто хоча мець добрыя расьліны і кветкі ў кветніку, мусіць яго добра гнаіць, найлепей да гэтае мэты надаюцца гнаі натуральныя, як перагніўшы хлеўны гной, разбаўленая хлеўная жыжка, а таксама для гэтае мэты вельмі добра надаецца перагніўшы кампост з гаспадарчых адпадкаў.

Калі пры хаце маецца сад, трэба і яго ўтрымоўваць у парадку, а ласьне, сухія дрэвы і сухія галінкі выцерабіць, „ваўчкі“, растучыя пры карэньнях дрэў — абрэзаць, кару адстаючую ад пня абскрабсьці і дзерава пабяліць вапнаю. На дрэвах трэба павесіць будачкі для шпакоў, схаванкі для гнёздаў птушак — гэтых нішчыцяляў найвялікшых шкоднікаў дрэў і расьлін.

*К.*

---

# На што гаспадар павінен зьвярнуць увагу прыступаючы да веснавых працаў.

З прыходам вясны ўся ўвага гаспадара павінна быць зьвернена палям, сенажацьцям, саду і агароду. Яшче зімою трэба добра абмеркаваць, што і дзе сеяць, якую зьмему зрабіць і да ўсяго гэтага трэба быць прыгатаваным. Толькі тады можна чакаць удачы, калі гаспадар усё наперад падрабязна абмяркуе. Трэба заўсёды памятаць прыказку, што „не тады сабак карміць, як на паляваньне ісьці“.

Паміж шматлікіх выкананьняў, якія гаспадар робіць вясною і ад правільнасьці якіх у вялікай меры залежыць удача ці няўдача гаспадарчага пачыну, мы тут пастараемся асьвятліць найгалаўнейшыя і больш важныя.

Да працаў у полі. Найгалаўнейшая засада, якое трэба трымацца пры веснавых пасевах — гэта вясной не гараць, каб не перасушыць глебу. У разе неабходнай патрэбы, араць па магчымасьці плытка. Аб гэтым ужо шмат пісалася ў нашай часопісі.

Сеяць толькі добрым і чыстым насеньнем. У збажовых расьлін, пры дапамозе машын для чышчэньня і сартаваньня, зерняты на насеньне трэба атабраць найбольшыя (апрача жыта, у якога вялікія зерняты паходзяць часта ад зубатых каласоў). Да таго насеньне не павінна мець прымешку іншага насеньня або зярнят пустазельля.

Здэгэнэраванае насеньне ўсіх расьлінаў, якое дае слабыя ўраджаі, або заражанае хваробамі, з якімі трудна бароцца, трэба замяніць новым, болей ураджайным і здаровым сортам, выпрабаваным у данай мяйсцовасьці.

Адна з хвароб, розныя рады якое зьяўляюцца на ўсіх нашых збажынах — гэта галаўня. Хвароба гэта зьяўляецца дзякуючы таму, што сеемо насеньнем, якое заражана гэтым грыбком. Барацьба з гэтай хваробай палягае на нішчэньні зародкаў галаўні ў насеньні.

Ёсьць два роды галаўні, якія трэба добра распазнаваць. Барацьба з імі розная. Пылковая галаўня зьяўляецца ў збожжы падчас яго красаваньня ў пастаці вялікай колькасьці чорнага пылу ў коласе. Гэты пыл пераносіцца ветрам на іншыя каласы і атрымліваюцца потым зярняты, хоць на від і здаровыя, але ўжо заражаныя галаўнёю. З гэтым родам галаўні барацьба найтруднейшая, бо няма яшчэ сродку, які можна было-б радзіць. Існуючы спосаб барацьбы ёсьць трудны і кожнаму паасобнаму гаспадару трудна карыстацца, бо зародкі гэтае хваробы, знаходзячыяся ўнутры зерня, нішчацца высокаю цеплатою, а ад высокае цеплаты зерня можа страціць сваю ўсходнасьць. Практычна гэта праводзіцца такім чынам: насеньне спачатку мочыцца ў халоднай вадзе працягам 4 — 6 гадзін, а пасьля апушчаецца ў ваду нагрэтую на 50—54 град. С. Вышыня тэмпэратуры залежыць ад роду і сорту збожжа.

Проціў-жа галаўні сьмярдзючае, якая выступае ў пастаці сьмярдзючага чорнага пылу, якім бывае, пры дасьпеваньні збожжа, выпаўнена нутро зярнят, ёсьць пэўныя, выпрабаваныя сродкі. Зародкі гэтыя ў пастаці пылу прыліпаюць к зернятам пры малацьбе і заражаюць расьліну пры прарастаньні. Змагаюцца з гэтымі хваробамі пратраўленьнем насеньня. Спосабаў пратраўленьня ёсьць шмат, але мы тут пакажам найбольш пашыраныя.

1. Прыгатаўляецца 1 проц. рашчыны сіняга каменя (серчану медзі) і ў гэтай рашчыне мочыцца насеньне 4 мінуты, а потым сушыцца і сеецца. Рашчына прыгатаўляецца наступна: распускаецца 1 кілёграм сіняга каменя ў 100 літрах вады.

2. Першы спосаб ня ёсьць зусім пэўны, а дзеля таго ў апошнія часы пратручваньне праводзіцца пры дапамозе фармаліну. Прыгатаўляецца 0,1 прац. рашчыны фармаліну і ў ім мочыцца насеньне працягам 10 — 30 мінутаў, у залежнасьць ад роду насеньня і потым сушыцца. (Для пшаніцы і ячменю 10—20 мінут, для аўса 20 — 30 мінут). Рашчына прыгатаўляецца такім чынам: чвертка літру 40 працэнтовага фармаліну разводзіцца 100 літрамі вады. Нявыгада фармалінавага спосабу палягае ў тым, што пратраўленае насеньне павінна быць

пасеяна ў працягу 3 дзён і не пазней. Пратраўленьнем насеньня расьліна ахоўваецца ня толькі ад галаўні, але і ад шмат іншых небяспечных хваробаў.

Што-ж тычыцца штучных гнаёў, то ня гледзячы на іх дарагоўлю, у пэўных выпадках гнаеньне імі бывае канечна патрэбным. Да такіх выпадкаў трэба аднясьці гнаеньне паташовымі гнаямі (каініт, паташовая соль) пад бульбу, сэрадэлю, лубін на бедных пясках, якія звычайна на такіх глебах даюць слабыя ўраджаі; пасьля-ж гнаеньня паташовымі гнаямі расьліны гэтыя проста дзівы робяць. Падобнае значэньне для буракоў мае чылійская салетра. Ёсьць такія грунты, дзе бяз фосфарных гнаёў ня варта і жыта сеяць.

Не малую ролю адыгрывае на ўраджай і пара сяўбы. Вясеньнія пасевы павінны адбыцца як найраней, як толькі зямля сагрэецца. Ёсьць расьліны чулыя на прымаразкі (фасоля, кукуруза, грэчка і т. п.), з якімі ня трэба сьпяшацца і пачакаць, калі пагроза прымаразкаў міне.

Ня трэба забывацца на падсяўныя расьліны, — падсеяць у час сэрадэлю і прыкрыць яе лёгкаю востраю бараною. Чым глеба лягчэйшая, тым хутчэй трэба пасьпяшыць з падсяваньнем.

Пшаніцу, канюшыну і муражныя сенажаці трэба вясною баранаваць. Калі канюшына рэдкая і слабая, то трэба яе палепшыць падсяваньнем іншых расьлін. Для гэтае мэты найбольш адпавядае канюшына-інкарнатка і сэрадэля. Пры двухгадовым карыстаньні падсяваецца італіянскі райграс.

Сенажаці вельмі карысна баранаваць, асабліва калі яны заросшыя мохам. Не барануюцца толькі тарфяністыя сенажаці і сенажаці багатыя перагноем. Тут хутчэй патрэбны пакаток (валец). З пакаткам трэба быць вельмі асьцярожным, бо мокрай вясной ён хутчэй можа зашкодзіць, чым памагчы. Калі паміж траваў на сенажаці мала канюшынаў, то трэба палепшыць падсеваньнем такіх.

Для гэтае мэты робяць такую мешаніну насеньняў: 2 кілёграмы чырвонае канюшыны, 4 кілёграмы швэдзкае канюшыны і 5 кіл. цімафейкі на гэктар. Калі-ж на сенажаці расьце досыць канюшынаў, то такія сенажаці можна палепшыць падсяваньнем цімафейкі або купкавае травы.

Да працаў ў садзе. Трэба старацца, каб навокал пнёў зямля была ўсьцяж успульхненай. Ачысьціць пні ад старое кары і абмазаць вапенным малаком з глінай.

Выцерабіць сухія галінкі, прарадзіць, дзе растуць густа, пазрываць застаўшыяся на дрэвах леташнія лісты. Карысна, у мэтах барацьбы са шкоднікамі, зрасіць дрэвы ў бязлістым стане аж да вяршкоў маладых галінак вапенным малаком. Замест вапеннага малака можна апрыскаць 2 проц. рашчынай сіняга каменя. Калі пупышкі пачнуць лопацца карысна зрасіць дрэвы 1 проц. рашчынай бардоскай жыжкі (у стане цьвітучым дрэвы нельга скрапляць). Розныя пашкоджаньня дрэў трэба выгладзіць нажом і замазаць гародніцкаю мазьзю або глінай з кароўім калам і абвязаць ганучкай.

*К. З.*

# Аб прыгатаўленьні кампосту.

У свой час у „Сасе“ ўжо былі артыкулы аб тым, як разумна выкарыстаць торф і розныя гаспадарчыя адкіды для прыгатаўленьня ўгнаеньня. Дзеля таго, што справа гэтая давалі важная, я цяпер і хачу падаць пэўныя зацемкі аб прыгатаўленьні і скарыстаньні кампосту.

У кожнай гаспадарцы, ці то ў панадворку, ці на дарозе можна спаткаць шмат усялякага сьмяцьця, предстаўляючых сабою добры матэрыял для прыгатаўленьня ўгнаеньня. Тым часам гэты матэрыял амаль што заўсёды прападае без уселякай карысьці.

Некоторыя нашы гаспадары, а шкада, што іх мала, выкарыстоўваюц розныя адпадкі, складаючы іх у кучы, і атрымліваюць такім чынам вельмі добрае ўгнаеньне, званае кампост.

Угнаеньне гэта, у залежнасьці ад матэрыялаў з якіх яно складаецца, мае ў сабе ў большай ці меньшай колькасьці пажыўных матэрыялаў лёгка ўспрыйманых расьлінаў. Тут ёсьць і фосфар, азот, паташ і інш, а таксама і перагной, як і так патрэбны для ўтрыманьня добрае будовы глебы. Адным словам, кампост ёсьць добрым угнаеньнем, асабліва на сенажацях і ў агародах.

Якім-жа чынам прыгатаўляецца кампост?

Найлепей закладаць кампостную кучу ў мейсцы даступным і цяністым, як пад дзеравам ці высокім кустом.

На самы спод кампоставай кучы і для перакладаньня особных пластоў адпадкаў трэба ўжыць зямлі багатае перагноем, якую найлепей браць з дарог, равоў і канаў пры ачыстцы іх, сажалак і г. д.

Укладаецца кампостная куча ў форме прызмы (капцом). У кучу можна даваць попел, косьці, сьмяцьцё, выпалатае пустазельля, апрача пырніку, які не перагніе і за два гады і можа нам засьмецiць поле. Для большай пэўнасьці лепей пустьзелья спаліць і ўжо попел даваць у кампоставую кучу. Агулам кажучы, у кампост можна даваць — рознаякія матэрыялы. Добра даваць у яго мох, выбаранаваны на сенажацях, аер, кал розных жывёлаў і птушак і т. п. Матэрыялы, якія моцна пахнуць, добра прысыпаць торфам, каб не разнасіўся наўкола няпрыемны пах. На гэтым аднак не канец. Зложаныя такім спосабам матэрыялы мусяць перагніць, а дзеля таго ў сухую пару трэба кучу паліваць хлеўнай жышкай або вадою. Кожны нанова наложаны пласт адкідаў трэба прысыпаць зямлёю і прытаптаць. Цэлая куча не павінна быць вышэў 1 з пал. мэтраў і ня шырэй 2 мэтраў. Таксама трэба яе абсыпаць наўкола землёю і надаць кучы чатырохкутную форму т. е., каб ня мела выгляду сьметніка, за які паліцыя карае.

Таксама трэба помніць, што кампостную кучу кожныя два месяцы трэба перасыпаць, каб-верхнія пласты пайшлі на спод, а споднія — на верх. Добра пры перамешваньні кампосту перасыпаць яго паленай вапнай, якая спрыяе хутчэйшаму перагніваньню матэрыялаў; сама па сабе зьяўляецца ўгнаеньнем.

Для агароду найбольш надаеца кампост. На такой кучы на другі год добра пасадзіць гарбузы, якія парастуць вельмі добра.

Прыгнойваць кампостам можна ў кожную пару году і пад уселякія расьліны, — пад памідоры, капусту, у ямы для дрэваў і інш. На

сенажацях, ачышчаных, зразумела, ад моху, уплыў кампосту ёсьць проста надзвычайны. Уплывае ён на ўраджай сенажацяў часта нават лепей за штучныя гнаі, як каініт або тамасоўка. На гэктар даецца кампосту каля 30 вазоў аднаконных.

Хто з гаспадароў выпрабаваў значэньне кампосту, той напэўна скажа, што праца зьвязаная з прыгатаўленьнем яго вельмі добра аплачваецца павышанымі ўраджаямі. Да таго ў гаспадара, які робіць кампост, усюды пануе прыкладная чыстата, — розныя адкіды старанна зьбіраюцца і даюцца ў кампост. Усё гэта намаўляе к таму, каб кожны наш селянін заняўся прыгатаўленьнем кампосту.

*К-л.*

---

# Палітычная хроніка.

## Польшча.

### Надзвычайная сэсія Парламанту.

Дэкрэтам Прэзыдэнта скліканы Сойм і Сэнат на надзвычаўную сэсію, якая пачалася 19 красавіка. Склікана сэсія толькі для разгляду і зацьвэрджаньня ўрадавага законапраекту аб аддачы спэцыяльна арганізаванаму ў Парыжу „Француска-Польскаму чыгункаваму Таварыству“ (акцыйнай супалцы) права будаваньня й эксплёатацыі чугункавай лініі Шлёнск-Гдыня з гарантыяй з боку польскага ўраду.

Гэтая чыгунка зьвяжа з польскім марскім портам найбагацейшы горна-прамысловы абшар Польшчы (В. Сілезію). Гэта дасьць Польшчы магчымасьць насамперш карысна, а не дэфіцытна, як цяпер, вывозіць найвялікшае багацьце гэтага обшару—дасканалы каменны вугаль. Апроч таго, новы чугункавы шлях наагул упяршыню злучыць поўнач Польшчы з яе паўднём, што мае вялізарнае значэньне для транзытнага руху ў гэтым кірунку, ажыўляючы гандлёвыя сувязі Польшчы з яе паўдзённымі суседзямі. Бо-ж дагэтуль Польшча мела добрыя транзытныя шляхі толькі з захаду на ўсход і адваротна. Вельмі важна тое, што новы чугункавы шлях адначасна зьвяжа з Гдыняй бакавой галінкай і іншыя багатыя вугальлем абшары Польшчы: Дамброўскі і Кракаўскі. Будова чыгункі бясспрэчна ажывіць усё гаспадарчае жыцьцё краю, бо-ж усе матэрьялы, патрэбныя для будовы— будуць згодна з умовай купляцца й вырабляцца ў Польшчы.

Аднак, апазыцыйная прэса паказывае на вельмі цяжкія варункі, на якіх загранічны капітал згадзіўся працаваць у Польшчы, падчырківаючы, што ўсю рызыку за выпушчаныя француска-польскай супалкай акцыі на міліярд франкаў нясе амаль не цалком польскі ўрад. Такім чынам уся справа мае хутчэй характар канцэсіі, чым пазыкі.

# Польшча у лічбах—у 1929 г.

Толькі што вышаў з друку Гадавік Статыстыкі Польскай Рэспублікі 1930 г., які дае сацыяльна-гаспадарчую характэрыстыку Польшчы за 1929 г. у лічбах. Падаем стуль галоўныя статыстычныя асабліва цікаўныя і характэрныя.

На абшары ў 388.390 квадр. кілямэтраў—у 17 ваяводзтвах (253 паветах) на дзень 1 студня 1930 г. паводле аблічэньняў на падставе папярэдніх перапісяў насяленьня (новая перапісь мае адбыцца ў канцы бягучага году),—было ўсяго 30 мільён. 737.488 жыхароў. Гэта значыць, што за 10 годоў, лічучы ад апошняй перапісі ў 1921 г., насяленье Польшчы павялічылася кругла на 3 з паловай міл. чалавек.

У Польшчы ўсяго 634 месты, вясковых гмінаў 12.504. На 1 кв. кілямэтр прыходзіцца 70 жырахоў. Мястовага насяленьня ў Польшчы ўсяго 25.8 проц, ці крыху больш, як чверць; рэшта—тры чверці вясковага насялеьня, пераважна сялянства. Дадамо ад сябе: такім чынам галоўная сіла ў Польшчы—сялянства; дык каб Польшча была сільнай, трэба, каб і яе сялянства было вольнае, сільнае, багатае.

Натуральны прырост насяленьня—153 на 1000 жыхароў, а на нашых беларускіх і ўкраінскіх „крэсах", дык нават 208 на 1000. Пасьля Румыніі гэта прырост найвялікшы ў Эўропе.

Эмігравала (выехала) з Польшчы за 1929 г. ўсяго 243,5 тыс. чалавек, найбольш—у Францыю.

# Замельная рэформа у Польшчы.

У 1929 г. ўсяго распарцэлявана 163.221 гект., прычым з вольнай рукі абшарнікаў—у тры разы больш, як прымусова-Зямельнымі ўправамі. Схутарызавана ўсяго 429.6 тыс. гэкт.; зьліквідавана сэрвітутаў 88,7 тыс. гэкт.

Характэрна адзначыць, што як парцэляцыйная таксама й комасацыўная акцыя ў 1929 г. значна зьменшылася, раўнуючы да папярэдняго году; інакш кажучы, тэмп правядзеньня зямельнай рэформы ў Польшчы ўсьцяж спадае... і гэта—ня гледзючы на тое, што Гадавік 1929 году лічбова сцьвярджае, што даходнасьць дробных гаспадарак у Польшчы ўсьцяж павялічываецца дый вельмі шпарка. А адначасна буйнейшае землеўладаньне, як гэта сцьвярджаюць самі саюзы абшарнікаў, усьцяж руўнуецца ды банкрутуе. Аб гэтым зьявішчы вельмі выразна кажуць лічбы выстаўленых зямельнымі банкамі на прымусовую прадажу (ліцытацыю) вялікіх маёнткаў.

# Конфэрэнцыя у гаспадарчых справах Вілеишчыны й Наваградчыны

16 красав. адбылася ў Вільні пад старшынствам б. мін. зямельн. рэформ Станевіча і прадстаўнікоў вышэйшай адмінстрацыі Віленскага й Наваградзкага ваяв. Конфэренцыя апрацавала абшырны мэморыял аб найважнейшых патрэбах гаспадарчага жыцьця гэтых ваяводзтваў,

які й будзе пададзены цэнтральнаму ўраду. Салянства было прадстаўлена на канфэрэнцыі праз „Кулкі Рольнічэ“, ў якіх, здаецца, верхаводзяць пераважна польскія асаднікі, а не адвечны гаспадар гэтага краю—беларускае сялянства. Дык — ці кажа што-колечы апрацаваны конфэрэнцыяй мэморыял аб патрэбах і інтарэсах нашых сялян, няведама.

# Заграніцай.

## Мытнае аб'яднаньне Аўстрыі з Нямеччынай.

У канцы сакавіка ўрады Нямеччыны й Аўстрыі апублікавалі ўступны „пратакол“, які сцьвярджаў, што абодва гаспадарствы пастанавілі дзеля аблягчэньня гаспадарчага абмену зьніштожыць паміж сабой мытную граніцу. Такая яўна карысная для абодвух краёў, чыста гаспадарчая пастанова зрабіла аднак-жа ў Вэрсальскай Эўропе ўражэньне выбуху бомбы. Справа—у тым, што гэтае, пакуль што толькі мытнае аб'яднаньне было зусім слушна прынята эўрапэйскімі валадарамі, як першы рашучы крок да поўнага палітычнага злучэньня абедзьвюх дзяржаваў, да якога ўжо ад самага вэрсальскага міру выразна рыхтуюцца іх кіраўнікі.

Лёгка зразумець, якую новую вялікую сілу дало-б Нямеччыне гэтае далучэньне да ея Аўстрыі. Гэтым актам былі-б адразу папоўнены ўсе тыя страты, якія панесла Нямеччына ў выніку ваеннага паражэньня. Дык саюзьнікі пераможцы ведаючы гэта, у міравых трактатах выразна засьцераглісяя процi гэтага злучэньня. А калі Ліга Нацыяў у 1922 годзе ратавала ад фінансавага банкруцтва Аўстрыю, дык узяла ад яе яшчэ дадатковыя прырачэньні, што тая „захавае поўню сваей дзяржаўнай, незалежнасьці“.

Але й гэтае, толькі мытнае, аб'яднаньне таксама дае немцам вялізарную перавагу ў Эўропе, робячы Нямеччыну „гаспадарчым суседам“ аж пятнаццацёх дзяржаваў, ці гаспадарчым цэнтрам Эўропы. Такога выгаднага палажэньня ня мае ніводная з іншых дзяржаваў. Мытная унія з Аўстрыяў такім чынам робіць Нямеччыну фактычна незаменным гаспадарчым арганізатарам, амаль ня дыктатарам усяе Эўропы.

## Гішпанія — рэспубліка.

14 красавіка новы рэвалюцыйны ўрад у Гішпаніі з ведамым правадыром гішпанскіх рэспубліканцаў Алькала Заморра начале — абвясьціў у Гішпаніі рэспубліку. Адначасна апошні прэм'ер-дыктатар караля Альфонса XIII-ага і апошняга, Азнор, заявіў ад імя караля аб яго адрачэньні (?) ад трону.

Трэба прызнаць, што кароль добра зрабіў, што адмовіўся ад улады й выехаў з краю: гэтым ён ухіліў магчымасьць хатняй вайны,

якая магла распачацца—асабліва таму, што усё-ж сярод найбольш упрывілеяваных часьцяў арміі асталося шмат манархістаў.

Але кароль, як ён заявіў у выданым заграніцай маніфэсьце, не адрокся ад трону зусім, але толькі „злажыў з сябе ўладу“, захаваўшы сабе цалком „усе правы манарха“. Бо-ж манархія, заявіў ён, найдаражэйшы даробак усей гісторыі Гішпаніі, якім кароль сам распараджацца ня можа“... Кароль верыць, што яго „каханы“, але „часова“, відаць, страціўшы да свайго караля любоў, народ „з часам зьменіць свой сучасны настрой“... Дык кароль — толькі пасьля пастановы ўстаноўчага сойму“ скажа й сам сваё апошняе слова“...

Пакуль рэвалюцыя ў Гішпаніі ідзе спакойна і бяскроўна...

## Індыя—дамінія Брытанскай Імпэрыі.

Справа ператварэньня Індыі, як калёніі Англіі, у самостойную складовую частку, у домінію сусьветнай Брытанскай Імпэрыі, шпарка пасоўваецца наперад. Пасьля звальненьня Ганді з вастрогу, ён рашуча ўзяўся за работу, з аднаго боку, адбыты нядаўна ўсе-індускі нацыянальны кангрэс аднагалосна даў Ганді блізу дыктатарскія паўнамоцтвы вясьці перагаворы з англійскім урадам. З другога боку, Англія амаль не цалком прыняла высуненыя праз Ганді ўступныя варункі паразуменьня. Англійскі работніцкі ўрад паставіў сабе задачай за ўсялякую цану дабіцца вырашэньня індыйскай справы, бо-ж далейшае ўпорства Англіі пагражала-б проста стратай усялякіх сувязяў з гэтай найбагацейшай у сьвеце краінай.

У хуткім часе мае ізноў сабрацца так званая „канфэрэнцыя круглага стала“, ці прыязнай нарады ў справе паразуменьня, і недалёка ўжо час, калі Індыя станецца амаль не цалком вольнай і самастойнай дзяржавай у „Рэспубліканскім Саюзе Брытанскіх Нацыяў“, як названа была афіцыяльна на апошняй імпэрыяльнай Канфэрэнцыі Брытанская Імпэрыя.

Так дзяржаўны розум з абодвух бакоў ратуе абедзьве краіны ад нікому непатрэбнага праліваньня крыві...

## Безрабоцьце ў Англіі.

Габінэт Мак-Дональда перажыў нядаўна ў парляманьце вельмі жудасныя хвіліны. Кансэрватары, карыстаючыся цяжкім гаспадарчым крызісам у краі, а асабліва бядой безрабоцьця, з якой не пад сілу бароцца нават работніцкаму ўраду, унесьлі ў парлямант „вотум недаверра ўраду“. Матывуючы прапазыцыю, кансэрватары казалі, што, калі партыя Мак-Дональда абяцала на выбарах цалком вырашыць справу безрабоцьця, а цяпер цалком збанкрутавала ў гэтай акцыі, дык палітычная лёгіка і мараль трэбуюць, каб работніцкі ўрад выйшаў у адстаўку. Калі ён ня робіць гэтага сам, дык трэба яму... дапамагчы ў гэтым.

Лібэралы, дзякуючы якім урад Мак-Дональда, ня маючы сам па сабе большасьці ў парляманьце, падзяліўся: частка пастанавіла ратаваць сваіх „саюзьнікаў зьлева“, частка-наадварот-памагаць сваім „саюзьнікам справа“—кансэрватарам. Але рашучае выступленьне правадыра радыкальнай групы лібэралаў, слаўнага Льлёйд-Джорджа, вырашыла справу: урад атрымаў ізноў значную большасьць. Пэўне-ж, за гэты ратунак лібэралы возьмуць добрую заплату ад Мак-Дональда, але за тое ўрад апошняга мае забясьпечанае спакойнае гаспадараваньне аж да позьняй восені, калі йзноў мае сабрацца парлямант.

---

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

— Канфіската. Віленскае Гродзкае Староства сканфіскавала такія кніжкі пры перасылцы з Латвіі:

1) Езавітаў. — «Беларусь у мінулым і сучасным».

2) А. Галынец. — «Вялікае апрашчэньне ці вялікае ўдасканаленьне».

3) «Першы крок». — Зборнік вершаў ґуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі; Рыга — 1926 г., выдавецтва Т-ва Бел. Выбаршчыкаў у Латвіі.

Усе вышэй пералічаныя кніжкі да гэтага часу зусім легальна прадаваліся ўва ўсіх бел. кнігарнях.

Раней яшчэ праз тое самае староства была сканфіскавана геаграфія Эўропы, выданая ў Менску пабеларуску.

— Грамадзянін Езавітаў пераклаў драму латвійскага пісьменьніка Упіта «1905», якую і запрапанаваў выдаць бел. Выд. Т-ву ў Вільні.

— «Шлях моладзі» Вышаў № 4 (27) «Шляху моладзі».

— Гадавы Сход. Бел. Коопэратыв «Спулдзельца“ склікае гадавы сход на 10 траўня с. г. а 15 гадзіне ў памешканьні адз. Саюза кооп. спажывецкіх (Зав. Роса, 3).

— Конфэрэнцыя спаж. коопэратываў. Акружная конфэрэнцыя спаж. коопэратываў перанесена з 26 красавіка на 17 траўня с. г.

— «Жаноцкая Справа». Вышаў з друку № 2 «Жаноцкае Справы», выдаванай Аб'яднаньнем Беларускіх Жанчын імя «Цёткі» пад рэдакцыяй гр. Н. Шнаркевічовай. Нумар мае багаты і разнародны зьмест, які складаецца з наступных стацей і аддзелаў: перадавіца «Да працы» Н. Шнаркевічовай, «Як адчыніць беларускую бібліотэку-чытальню», «Песьняркі Ўсходняе Беларусі», «Гутаркі аб гігіене» д-ра Зофіі Луцкевічовай, «Парады для матак», «Ці варта ўмець шыць і вышываць», Цёткі Тоні, «Гаспадарчыя парады». Дапаўняе ну-

мар справаздача аб сьвяткаваньні трынаццатых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, аддзел «Да нас пішуць» (пісьмы з вёскі), хроніка беларускага жыцьця і даўгі рад адказаў на запытаньні чытачак «Жаноцкае Справы».

— «Заранка» № 2. Вышаў з друку другі нумар дзіцячае часопісі «Заранка».

— Новая кніжка. Вышла з друку дзіцячая кніжка з вельмі цікавым зьместам і малюнкамі ў тэксьце пад назовам «Мышанё Пік».

Каштуе гэтая кніжка 60 гр. без перасылкі. На перасылку аднае кніжкі трэба прыслаць паштовую марку за 10 гр. Выпісаць можна з кнігарні Белар. Выдавецкага Таварыства — Вільня, Вострабрамская вул. № 1.

— Агульны сход Бел. Дабрадзейнага Т-ва адбудзецца 3 траўня 1931 г. у 6 гадз. вечара ў памяшчэньні Т-ва пры Вострабрамскай вул. № 9. Парадак дня наступны: 1. Справаздача Ураду і Рэвіз. Камісіі. 2. Зацьверджаньне бюджэту на 1931 год. 3. Выбары Ўраду і Рэвіз. Камісіі. 4. Выбары прадстаўнікоў у Цэнтрасаюз. 5. Бягучыя справы.

— Ліквідацыя «Хатняга Промыслу». Урад коопэратыва «Хатні Промысл у Вільні» склікае першы ліквідацыйны сход на 26 тр. с. г. у кватэры гр. Я. Станкевіча, пры вуліцы Квашэльнай № 23, кв. 1.

Парадак дня:

1. Справаздача ўраду з дзейнасьці за год 1929, 1930 і 1931.

---

## Да ґедама падпішчыкаў і чытачоў „Сахі“.

З ПРЫЧЫНАЎ АД НАС НЕЗАЛЕЖНЫХ НУМАР ГЭТЫ „САХІ“ ВЫХОДЗІЦЬ СА СПОЗЬНЕНЬНЕМ І БЕЗ „ПЧАЛЯРСКАГА АДДЗЕЛУ“. СПАДЗЯЁМСЯ НА БУДУЧЫНЮ, ШТО БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА, ЯК І РАНЕЙ.

**РЭДАКЦЫЯ.**

---

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Пр. і Гасп. Арганіз. і Інстытуцыяў.

# ПЧАЛЯРСКІЯ АДКАЗЫ.

## Паштовая скрынка Т-ва „Пчала"

Сьцяпану Казлу: Пчолы з дупля ў ліпе можна дастаць дваякім способам: 1) Калі ліпу можна зрэзаць, то тады выслухаць у якім мейсцы пчолы маюць гняздо і пад ім на якіх небудзь поўаршына верх ліпы зрэзаць і таксама спілаваць сярэдзіну ліпы прыблізна на поўарш. ніжэй гнязда. Такім чынам атрымаеце калоду—стаяк, з якой з часам зможаце перагнаць пчол у рамовы вульлей. Разумеецца спілоўваць трэба вельмі асьцярожна, каб калода з гняздом не павалілася моцна на зямлю, а трэба спусьціць яе асьцярожна на вяроўках. — 2) Калі ліпы з якіх небудзь прычын зрэзаць нельга, то тады, выслухаўшы ў якім мейсцы знаходзіцца гняздо, прасьвідраваць сьвярлом дзьве дзіркі, адну ў нізе гнязда, другую ў яго верхняй частцы. У ніжнюю дзірку пускаць клубкі дыму, і выходзячых праз верхнюю дзірку пчол зьбіраць у райніцу. Сабраўшы пасадзіць у вульлей на гатовую вашчыну, або вузу, як натуральны рой.

Сьцяпану Паленіку: Дзеля таго, што вельмі было мала кандыдатаў на курсы, апошнія пакуль-што не адбываюцца. Магчыма, што зімой будзе больш жадаючых учыцца, тады і Вас з ахвотай запішам у іх лік.

Кніжкі пчалярскай, друкаванай лацінікай, няма.

Атрымаўшы сьвежы транспарт пчалярскіх прыладаў цэньнік падамо ў часопісі «Саха».

Клімовічу Пятру: Каб уступіць у сябры Т-ва «Пчала», трэба прыслаць адпаведную дэклярацыю (блянк высылаем атрымаўшы 25 гр. значак паштовы) і ўнясьці пай 10 зл., упісных 2 зл. і за сяброўскую кніжку 1 зл. Гэтыя 13 зл. могуць быць унесены ратамі ў працягу 3 месяцаў. У справе пчалярскіх курсаў будзьце ласкавы прачытаць папярэдні адказ.

Сэрафіму Шыбуту: Кілё штучнай вузы каштуе 13 зл. (з перасылкаю 14,80, можа будзе пасьля таней), колка да прымацоўваньня яе каштуе 3 зл. 50 гр. Дроту цынкаванага цяпер ня маем. Вульлей каштуе 40 зл., перасылка яго каля 10 зл. Рады будзем, калі будзеце працаваць на карысьць »Пчалы« і пастараецеся прыдбаць ей новых сяброў.



